Год IV. Сьнежань № 12 (47).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. №6

ЗЬМЕСТ № 12:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Ґ, ґ. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл.

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10.
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год IV. | Вільня, Сьнежань 1932 г. | № 12 (47) |
| --- | --- | --- |

## Купала, Колас і моладзь.

Гэты спозьнены нумар „Шляху Моладзі" належа яшчэ да 1932 юбілейнага году. У гэтым годзе прыпадала 50-лецьце няйвялікшых беларускіх паэтаў—Купалы і Коласа.

Праўда, у сваім часе аб адным нашым паэце і аб другім мы ў сваей часопісі пісалі. Пісалі мы тады аб іх паэтыцкай працы і аб значэньні гэтай працы для беларускага народу. А тымчасам забыліся мы хоць каратка ўспомніць аб нашых слаўных паэтах з пункту гледжаньня адносінаў іх поэтыцкага творства да моладзі. Вось-жа, згодна з прыказкай: „лепш позна, як ніколі", робім гэта цяпер.

Ведамай ёсьць рэчай, што кожная моладзь агулам адзначаецца пераважна бяскрытычнасьцяй, свайго роду наіўнасьцяй, а так-жа часта вялікім імпэтам да ідэалізму, якога шукае прадусім у розных навінках і, шукаючы якога, часта зло і фальш прымае за дабро і праўду.

Ясная рэч, што моладзь, дзякуючы гэткаму свайму характару, шукае адпаведных сабе крыніц, з якіх магла-б чэрпаць духовую страву. І, залежна ад благаты ці дабраты гэных крыніц, моладзь мае для сябе карысьці ці звычайную шкоду.

Аднэй з гэткіх крыніц ёсьць кніжка. Да кніжкі нармальная духова моладзь заўсёды мае вялікую ахвоту. І гэта зразумела. У кніжцы моладзь знаходзе для сябе ўсё цікавае: і добрае і благое. Гэты звычайны імпэт моладзі да кніжкі ў моладзі сяньнешняй большы, чым так калі, бо сяньнешні час сапраўды поўны трагізму, навінаў і поўны шуканьня дарог да лепшага, новага жыцьця. Аб гэтым-жа ўсім пішуць кніжкі.

Але кніжкі аб гэтым усім пішуць і добра і блага. Дзеля гэтага моладзь павінна чытаць ня ўсё, моладзь не павінна чытаць кніг благіх моральна і фальшывых, або прынамсі навукова баламутных, бо на гэта шкода дарагога часу і ад гэтага яшчэ большая шкода для моладзі моральнае.

Тымчасам сяньня ня толькі ў месьце, але і па сёлах беларуская моладзь проста захлёбываецца рознай кніжнай

тандэтай і брыдой. Дык ня сюдой дарога для нашай моладзі! Няхай гэтым займецца, калі хоча, здэмаралізаваная моладзь польска-мяшчанская і панская, якая ня мае прад сабой ніякіх грамадзкіх ідэалаў і толькі дажывае свой век. Прад беларускай моладзяй вялікі прастор працы на ніве палітычна-соцыяльнага вызваленьня беларускага народу і на ніве культурнага гэтага народу адраджэньня.

Беларуская моладзь павінна чытаць і пазнаваць кніжку добрую і разумную. Моладзь гэта ў першую чаргу павінна чытаць, перачытываць, пазнаваць, дасьледжваць творы сваіх несьмяротных песьняроў Купалы і Коласа.

Сапраўды, колькі-ж духовага дабра гэтыя беларускія паэты могуць даць нашай моладзі!

Моладзь чулая на красу, а ў Купалы і Коласе красы гэтай бяздоньне, красы агульналюдзкай з роднымі беларускімі колерамі і афарбоўкамі.

Моладзь чулая на соцыяльную і нацыянальную няволю нашага народу, а Купала і Колас песьняры-прарокі справядлівасьці і праўды.

Моладзь чулая на любоў, а Купала і Колас так чароўна яе апісваюць, выносячы пад неба і адначасна ня выводзячы яе з рамак адвечных законаў этыкі. Натхнёная Коласава поэма „Сымон Музыка" — гэта настольная кніга нашай моладзі, з якой яна павінна вучыцца, чым ёсьць сапраўды любоў і як вялікі яе чар і сіла.

«К сонцу душой!» — прадусім заклікае нас у сваей паэзіі Купула, уліваючы гэтым у душы нашай моладзі веру ў лепшае беларускае заўтра і даючы ей сілу духовую дзеля перамогі жыцьцёвай злыбяды.

«Ад роднай зямлі» — прадусім вядуць свой пачатак вершы-песьні Коласа, абуджаючы гэтым у душах нашай моладзі любоў да роднай краіны і роднага народу і пануючы гэту моладзь да чыну дзеля яго адраджэньня.

І Купала, як бачым, і Колас гарманійна між сабой дапаўняюцца. Адзін сонца шлець на беларускую — зямліцу, а другі зямліцу гэту, аручы і барануючы для сонца робіць даступнай.

Творы Купалы і Коласа — гэта народнае эвангельле, прадусім беларускай моладзі!...

*А. Сакалінскі.*



# Уладыслаў Галубок.

(*1882—1932*).

Сёлета ў Усходняй Беларусі, апрача Купалы і Коласа, абходзіў юбілей 50-лецьця ад дня нарадзінаў беларускі паэт, пісьменнік, драматург Уладыслаў Галубок.

Галубок, праўдзівае прозьвішча якога ёсьць Голуб, радзіўся ў 1882 г. ў сям'і сьлёсара з Менску. Вучыўся ён у пачаткавай школе, а вышаўшы з яе працаваў ад 1897 году доўгі час на чыгунцы.

У беларускім адраджэнскім руху бярэ ўдзел ад 1908 г. З гэтага году ён і пачаў сваю літэратурную працу, спачатку пісаў вершы і цікавыя, жывыя апавяданьні з жыцьця, а пасьля драматычныя творы. Найлепшым яго драматычным творам ёсьць „Апошняе спатканьне".

У сваім часе належаў ён да групы „нашаніўцаў", супрацоўнічаў у „Нашай Ніве", „Маладой Беларусі", „Вольнай Беларусі" і інш.

Пасьля Ўсясьветнае вайны Галубок арганізуе ў Менску Беларускі Тэатр, які пасьляператвараецца ў „Беларускі Дзяржаўны Вандроўны Тэатр", з каторым ён па сяньняшні дзень езьдзіць па ўсіх кутках Усходняй Беларусі.

Савецкая ўлада, прызнаючы вялікія заслугі Ул. Галубка на беларускай сцэне, надала яму тытул Беларускага Народнага Артыста.

На парозе другой паловы веку жадаем Паважанаму Юбіляту шчасьлівага жыцьця і пасьпеху ў працы на карысьць Беларусі.

---

# Сьвяткаваньне Юбілею Я. Купалы і Я. Коласа.

Беларускае грамадзянства, цэнячы вялікія заслугі сваіх найслаўнейшых песьняроў — Янкі Купалы і Якуба Коласа, сёлетні іхні юбілей — 50-лецьця ад дня ўрадзінаў — сьвяткавала вельмі ўрачыста.

У Вільні ладзіў сьвяткаваньне юбілею Купалы і Коласа адумыслова сарганізаваны Камітэт, у склад якога ўваходзілі прадстаўнікі незалежнага беларускага грамадзянства, ведамыя дзеячы: б. сэнатар А. Уласаў, б. пасол Кс. Ад. Станкевіч, б. сэнатар В. Багдановіч, Г. Шырма, С. Паўловіч і прадстаўнікі віленскага беларускага студэнства.

Камітэт гэты на чэсьць юбілятаў 27.XI.1932 г. ладзіў урачыстую акадэмію ў б. залі „Апольлё".

Акадэмію гэту, якая сьцягнула так вялікі натоўп народу, што не магла зьмясьціць вялізарная заля, куды свабодна

можа ўвайсьці больш 1000 асоб, адчыніў грам. Уласаў і ад імя сабраўшыхся вітаў няпрысутных паэтаў і жадаў ім пасьпеху ў далейшай працы. Пасьля былі прачытаны два рэфэраты. Першы чытаў др. М. Чарнэцкі аб нацыянальным і соцыяльным элемэнце ў творстве Купалы і Коласа, а другі, В. Багдановіч—аб красе ў творстве Купалы і Коласа. Па рэфэратах выступаў слаўны беларускі студэнскі хор пад кіраўніцтвам грам. Шырмы і вялікая колькасьць дэкляматараў.

Падчас акадэміі на сцэне красаваліся беларускія нацыянальныя бела-чырвона-белыя штандары з Пагоняй і прыбраныя партрэты Купалы і Коласа.

На заканчэньне Акадэміі хор выканаў беларускі народны гымн „Не пагаснуць зоркі ў небе", які прысутныя выслухалі стоячы.

Беларуская вучнёўская моладзь Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі ім. Славацкага ў Вільні, якая, дзякуючы дырэктару Р. Астроўскаму, не змагла быць прысутнай на сьвяткаваньні ў чэсьць Купалы і Коласа арганізаваным старэйшым грамадзянствам, пастанавіла зладзіць яго сваімі сіламі ў гімназіяльнай залі 18-га сьнежня 1932 г. Акадэмію гэту адчыніў вучань 8-е клясы Дасюкевіч, пасьля чаго вучань Насекайла прачытаў рэфэрат аб Купале, а вучаніца Марцінчык — аб Коласе. Па рэфэратах адыграны быў на сцэне II-гі акт драматычнае поэмы Купалы „Сон на кургане", выступаў вучнёўскі хор, струнны і духавы аркестры, а так-жа дэклямаваліся вершы юбілятаў.

Гэтак сьвяткавала юбілей Купалы і Коласа беларускае старэйшае грамадзянства і моладзь у Вільні.—Ня спала таксама і правінцыя, і там, дзе можна было, ладзіліся таксама сьвяткаваньні.

А сьвяткаваньні гэтыя ў чэсьць духовых павадыроў Купалы і Коласа ясна выяўляюць, што імкненьне беларускага народу да адраджэньня, да волі расьце і разрастаецца, а гэта ёсьць зарукай, што народ наш не загіне.

* * *

Сьвяткаваньне юбілею Коласа ў Усходняй Беларусі, адбывалася ад 10 да 13 сьнежня. На чале камітэту дзеля арганізацыі сьвяткаваньня стаяў камісар нар. асьветы Платун.

**Я—к.**



# Ab kulturnych formach žyćcia.

## Adviedziny.

Jak u vykonyvańni, tak i ŭ prymańni adviedzin vielmi šyroka stasujecca prykazka „što starana, to navina". Što ŭ adnej staranie pryniata ŭvažać za abaviazkavaje, toje ŭ inšym miejscy žjaŭlajecca nia raz susiom niaviedamym. Z bolšaha adnak heta sprava pradstaŭlajecca hetak:

Pieradusim treba razroźnivać adviedziny aficyjalnyja, tavaryskija, pryvatnyja. Pravilam jość, kab adviedziny nia byli ciažaram dla haspadara. Ahulnuju mierku na heta paradzić trudna, treba ŭmieć vyčuvać.

Aficyjalnyja adviedziny (tut-ža i adviedziny kaladnyja, novahodnyja i vialikodnyja) ahułam biaručy tryvajuć najkaraciej, bo ŭsiaho 10, najbolš 15 minut. Para dnia taksama ścisła ahraničana: pamiž 11-aj i 12-aj udzień, abo ad 15½ da 18½ hadz. (ŭviečary). Kali-b niechta byŭ na hetkija adviedziny paklikany z aznačeńniem hadziny, treba hetaj hadziny ścisła datrymacca.

Tavaryskija (ale nie siabroŭskija) adviedziny (i adviedziny dzieła paznajamleńnia) tryvajuć taksama koratka, jak i papiarednija; ich treba tolki najpaźniej da čatyroch dzion adpłacić. Nieadpłačanyja adviedziny śviedčać ab niatakcie taho, chto adviedziny pryjmaje i moža mieć za naśledak prarvańnia z im tavaryskich znosin (znajomstva).

Pryjacielskija adviedziny, a taksama adviedziny zahadzia ŭmoŭlenyja, abo i prosta zaprošanyja, časam nie ahraničvajucca. — Adviedziny chvoraha majuć, jak kažacca, dva kancy: z adnaho boku jany žjaŭlajucca dokazam pamiaci znajomych i jak hetkija spryčyniajuć chvoramu peŭnuju pryjemnaść; ale tolki chvoramu lohka, abo takomu, katory ŭžo papraŭlajecca (rekonvalescent). Chvorych na chvaroby, jakimi možna zarazicca, adviedyvać nia treba, a navat nia možna. Toje samaje z chvorym c i a ž k a, na ŭsiakuju inšuju chvarobu, bo hetkija adviedziny dla chvoraha časta nieŭmahatu — mučać. U apošnim vypadku najlepš zrazu-ž pry parozie raspytacca ŭ chatnich, ci lekar adviedziny chvoraha pazvoliŭ, — i pavodle hetaha stasavacca.

Urešcie treba asobna ŭspomnić ab adviedzinach hetak zvanych kondolencyjnych, pry jakich składajecca (vykazvajecca) adviedyvanaj asobie spačuvańnie ŭ spatkaŭšym jaje sumnym zdareńni, pieravažna śmierci blizkaj asoby. Hetyja adviedziny možna lohka zamianić adpaviednym piśmom. Jak pry asabistaj, tak i pry piśmiennaj kondolencyi treba jak ahniu ścierahčysia vyražeńniaŭ „ababitych", banalnych (z usiakich „piśmoŭnikaŭ"). Asablivaściaj kondolencyjnych adviedzinaŭ žjaŭlajecca toje, što ich prymać moža nia tolki sam haspadar ci

haspadynia domu, jakija i biez taho zabity byvajuć svaim horam: ich moža ŭ hetaj spravie — u pryjmańni kondolencyi — zamianić niechta z svajakoŭ, abo i z dobra znajomych tolki.

Jak pryjmańnie adviedzinaŭ, tak i naviedyvańnie kładuć abustaronnyja vymahańni, aprača času, jašče što da formy i miejsca. Pad formaj tut razumiejecca takoje abustaronnaje zachavańnie, pry katorym nichto nia byŭ-by niamiła zadzietym. Składajecca na heta miž inšym i adzieža, jakaja nia moža być ani zapuščanaj, bo heta byŭ-by dokaz niaŭvahi dla druhoj starany, — ani biaz miery „vyfrantavanaj", bo druhaja starana mahla-b čucca panižanaj dziela taho tolki, što hetkaj darahoj adziežy nia maje.

Što da miejsca, dyk pamieškańnie na pryniaćcie haścia pavinna być čystaje, vyvietranaje — i ad parfumaŭ, — a ŭ zimnuju paru — i natoplenaje.

Čas pryjmańnia adviedzinaŭ najlepš zahadzia ŭstalić napr. na prymacavanaj na dźviaroch kartačcy. Niapryniaćcie adviedzinaŭ paza hetaj paroj nikoha nie pavinna abražać. — Ale i abaviazak pryniaćcia adviedzinaŭ u aznačanaj hadzinie, musić być taksama datrymanym.

*V. S.*



# Літэратурны аддзел.

## „ЗОРНАЯ НОЧ".

Спусьцілася ночка над роднай зямлёю,
Што раз, то чарнейшым махала крылом,
Да зоркі кацілася зорка парою,
Мінаючы ясных сястронак кругом.

Так чыста на небе... Ні хмарка, ні дымка
Нідзе не стаіць на ўсей шырыні,
А толькі Малочнай Дарогі касынка
Сьвіціцца раздзёртым бяльмом ў вышыні

І дзеліць шырокі простор на два бокі:
Ў адным, як галандзкага сыру лісток,
Жаўцее збляднелы цар-месяц высокі
Над зоркамі ўсланымі ўздоўж-папярок.

Высока, высока вы зоркі нямыя,
А з думак вы блізкі для сэрца майго,
Катораму будзіце раны жывыя,
Балячкі жыцьцёвага шляху яго.

Як вам ня стрымаць яго сьлёзаў ядроных,
Так ў жылах ня вам ўсхвалявацъ цёплу кроў,
Не растлумачыць вам сноў недасьнёных,
Ня вам дасказаць недаказаных слоў.

Высокія зоркі! Вы маеце чары,
Як сьвечкі васковы зсылаеце сьвет,
А вашыя тайны, дарогі, абшары
Ня ў сілах ўсхваліць сьлямазарны паэт.

Аднак вы ў душу уліваеце сьветам
Рой думак адменных ад думак зямлі,
Тагды пачуваешся здольным паэтам
Складаць гымны-песьні аб вашай далі,

Аб тым маестаце вірующых зораў,
Аб іхняй сям'і без пачатку-канца,
Што сам чалавек, найцікаўшы з ўсіх твораў,
Зьяўляецца творам Самога Тварца.

Я. В.

---

## ВОЎК І АВЕЧКІ.

(Байка).

Прыйшоў к авечкам воўк і так да іх казаў:
—„Спакойная сям'я! Гатоў жыць з вамі ў згодзе.
Я лепшых не знайшоў ад вас ўва ўсей прыродзе,
Вас буду бараніць — бо вас я пакахаў.

Пакінуў дзеля вас натуру воўка я
І мясам болей я зарокся ўжо жывіцца,
Апошнім я гатоў кусочкам падзяліцца,
Хацеў-бы з вамі жыць пакорна, як ягня".

Так лгаў авечкам воўк. Іляжывая брахня
Пазволіла яму к авечкам далучыцца. —
А ён таго чакаў. Ня ўсьпелі парадніцца —
Калі глядзяць — між іх прапала ўжо ягня.

Прапала-бы і два... і ўсе-б яны прапалі,
Каб воўка пастухі па скуры не пазналі

Язэп Вількоўшчык.

---

## КРЫНІЦА.

Сьнег іскрыцца, серабрыцца
Стальлю чыстай пераліўнай.
У косах сонца загарыцца
І гарыць...
    Гарыць агнямі
    Сталі чыстай, пераліўнай!
А сьняжынкі драбней пуху
Ў ветры подзьмуху шалёным
Панясуцца
И адазвуцца гдзесь далёка!
    Там глыбока ля крыніцы,
    Сочнай чыстае вадзіцы
    Глянуць ў люстра...
    І нап'юцца —
Тут й зальюцца...
Драбней пуху... Цень сьняжынак!
    Напіліся —
    Расплыліся ў люстры сочнае вадзіцы
    Там
    Ля берагу крыніцы!
І калісь, калісь...
Ужо другі такі з усьмехам
Пух сьняжынак серабрыстых,
Да крынічанькі прымчаўся!
    Ці-ж нап'юцца?...
Мо' скуе мароз крыніцу
И люстра чыстую вадзіцу —
    Й не нап'юцца?...
Сьветлы промень душы згадак
Жартаўлівае крыніцы
Ня дасьць зьгінуць!
    І пакінуць...
    І... нап'юцца!

**М. Нядоля.**

---

## ВЕЧАР.

У небе зоркі-папяроскі
Сыплюць попел — шэры вечар...
Вагні места — нібы сьлёзкі—
Зьяюць срэбрам — воскам сьвечак,
Цені — птушкі панад брукам,
Нібы вораны ці каўкі...
Распасьцёрлі свае рукі
Электрычныя русалкі
Твары пудраю задумы
Абсыпае моўчкі-хтосьці

Заклікае голас шуму,
Нібы крамнік, к сабе ў госьці.
З змроку месячыкаў рожкі
Выплываюць ліхтарамі
У небе зоркі-папяроскі
Сыплюць попел над дамамі.

**Хведар Ільляшэвіч.**

---

## ПЕРШЫ СЬНЕГ.

За ноч, як я спаў у ложку,
Спаважнела дурніца-вуліца...
Ня ведаў я ані трошку,
Што яна прыкідаецца жулікам...
Зьдзіўлены звонам — раніцай
Я пабачыў, сабе ня верачы:
Расьцьвілі на парканах-п'яніцах
Беласьнежныя, пухкія вербачкі.
Навакол — на бруку, дахоўках
Белы сьнег лаўлю вачыма я...
Сягоньня пайду станоўка
Аглядаць маё места радзімае.

**Хведар Ільляшэвіч.**

---

## SIALANSKAJA SIAMJA.

Staraja chacina
Staić pobač klona
Stracha i z sałomy,
K ziamli pachilona.
Žyvie ŭ hetaj chatcy
Siamiejka takaja:
Muž z žonkaj i dzieci,
I babka staraja.
Pracaj ziemlaroba
Jany zatrudniony,
I za svaju pracu
Sabirajuć plony.
Ziamli majuć trocha,
Z hakam hektar cely
Čornuju karoŭku,
Adzin konik biełу.
Śvinku i aviečku,
Dźvie kurki-čubatki,
I biełuju kotku
U čornyja łatki.
Uviečary zimoju
Babulka siadaje
I staryja baśni
Unukam hadaje.
I ŭ takich raskazach
Časta ŭspaminaje
Kazki Biełarusi,
Bo ich mnoha znaje.
Dzieci trochi ŭ pracy
Baćkom pamahajuć
I tak hod za hodam
Ciažka pražyvajuć.

**Ul. Kazarovič.**
14-ciletni vučać pač. šk.



# Jak budujucca i žyvuć ludzi ŭ Amerycy?

Dziakavać Bohu, Biełarus, choć jaśče nia tak daŭna, ale nazaŭsiody pakinuŭ užo staryja kurnyja svaje chaty i pieranioślsia žyć u chatu śvietłuju i z kominam. Moža jaśče hdzie kali redka, redka, ty napatkaješ staruju pachiłuju biaz vuhłoŭ i komina kurnuju chacinku. Jana staić u čortavaj łazie i na kurynaj nazie, kab była na pakaz ludziam. Ścieny jaje ŭ siaredzinie, jak vuhol čornyja, a na pałku la piečy moža i ciapier jaśče krekča stareńkaja biełaruskaja babka Juhasia.

Siahońnia ahułam Biełarusy iduć z postupam uva ŭsich halinach žyćcia, dyk jany i chatki sabie starajucca budavać lejšyja za daŭniejšyja. Ale mnie chočycca tut pisać ab chatach amerykanskich, dziela taho, kab biełarusy našy zaachvocilisia budavać dla siabie, kali nie takija, jak u Amerycy, dyk lepšyja za hetyja, što ciapier majuć.

Dyk słuchajcie ludzi, jakija chaty ŭ Amerycy. Pa ŭsiej šyrokaj i vialikaj Amerycy ŭsiudy paraśkidany husta i redka, byccam makam nasiejana, maleńkija dzieraŭlanyja domiki. Ale nia dumajcie drennaha ludzi: jany tak strojnieńkija, što vyhladajuć, jak dobra vyfarbavanaje naša jajko na Vialikdzień. Nia treba dumać, što tutaka ŭsiudy vializarnyja kamianicy. Jany to jość i hetakija, ale tolki pa bolšych haradoch i to radziej. A tak ahułam, dyk usia Ameryka až ćvicić dzieraŭlanymi małymi domikami. Na't domik samoha b. prezydenta Ameryki Kulidža ŭ Northamptonie Mass nievialički i dzieraŭlany, jak i inšyja. Z nadvorku ŭsie jany pamalavanyja na ŭsiakija łady i kolery. Małoŭku źmianiajuć čuć nia što hod. I toj samy dom sioleta biełу, a na leta budzie šery. Tak heta ŭsio padviedziena strojna, što hladziš na dom u Amerycy i hłynuć jaho chočycca.

Pa haradoch domik taki ad domika staić vielmi ščylna na aršyn adzin ad druhoha. Prad hankam, choć trošačka, raście maleńkaja hustaja travica, roŭna mašynkaj padrezanaja. Kruhom čyścieńka i, jak na dałani, usio roŭnieńka. Kožny kuścik dreŭca i kožnaja halinka tut dahledžany. Časami prad takim domam na bolšym prastory raście zvyčajny naš biareźnik, ale i jon pryhožy, bo čysty i apracavany. Kusty kvietak tuž pierad dźviarmi i vazony bahata razstaŭlenyja pa verandzie. Hdzie-nia-hdzie ŭbačyć možna ptušku kanarejku ŭ kletcy, abo niavietłaha papuhaja. Ustupiš u dom hety, dyk taksama charastvo i vyhoda ciabie tut spatkajuć. Padłohi śliskija i až bliščać ad lakieru. Usiudy parazścilanyja dyvany.

Choć ja nia cikavy, ale hlanuŭ pad dyvany i tam akazałasia padłoha zusim niemalavanaja. Ściany pryhožyja, pakrytyja farniram. Stol (sufit) vyrableny ŭsiakimi ŭzorami z gipsu. Inšy raz u takim domie tabie zdajecca, što ty znachodzišsia ŭ dubovym domie, abo ŭ marmurovym, a jon zvyčajny dzieraŭlany dom.

Ahravańnie domu ŭsiudy centralnaje i zimoj palicca ŭ piečy dzień i noč biezpierastanku i tady ciopła ŭ chacie. A pierastanieš palić, dyk i ŭ drož ciabie zabiraje. Aśviačajecca dom, ci ŭ horadzie, ci na fermie, elektryčnaściu. Taksama ŭ kožnym domie jość telefon. Z vadoj tut ludzi nia majuć biady. U kožnaj chacie jość dva krany z zimnoj i ciopłaj vadoj. Tam-ža staić vanna, u jakoj, kali chočaš, možaš kupacca. I za svajej patrebaj tut ludzi niedałoka chodziać, bo heta miejsca taksama ŭ chacie.

U hetakich bolš-mienš domikach žyvuć i bahatyja i biednyja ludzi: i daktary, i advakaty, i inžyniery, i bahačy-fabrykanty i zvyčajnyja rabotniki. Ci hetyja damy, jak u haradoch, ciesna miž saboj źbityja, ci, jak pa fermach, šyroka raśkinutyja, dla žycharoŭ usio roŭna, bo prastor tut nie adyhryvaje vialikaj roli. Telefon i aŭtamabil, pry dobrych darohach, šybka łučać ludziej u Amerycy ci čałaviek žyvie ŭ vadnym, ci ŭ druhim kancy horadu, abo hdzie na fermie.

A budujucca amerykanskija domiki, dyk susim prosta. Iduć tut u rabotu najbolš ćviaki i doški całoŭki. Źbivajecca pierš-na-pierš kletka z dyłaŭ dźvie cali na čatyry, vieličyni takoj, jakim maje być dom. Adrazu kładziecca čornaja padłoha, robiacca dźviery, pieraharodki i vokny, a paśla ŭsia chata abivajecca z vonku i z siaredziny doškami. Z nadvorku kładziecca daska na dasku hrebienčykam i cely dom tady vyhladaje, jak naš narubiasty vałak. Z siaredziny domu prybivajucca doški, hładka adna pry druhoj. Pamiž vonkavymi i nutranymi doškami astajecca pustoje miejsca dla pavietra. Rešta ŭžo tady namahajecca tolki malavidłam i farniroŭkaj.

Kožny taki domik najčaściej na dva pavierchi i služa dla dźviuch siemjaŭ. Adna siamja žyvie nahary, druhaja ŭdole. U chatu z hanku viaduć adrazu dvoje dźviarej.

Zdarajucca domiki i muravanyja, z cehły, kamienniaŭ, abo na't i z cymentu. Ale i muravanyja ŭsie hetakaj samaj formy, što i dzieraŭlanyja. Jany bolš daŭhavacieńkija, jak šyrokija, bolš cieńkija i vysokija, jak razłažystyja. Pakojaŭ u siaredzinie mnoha i jany vyhodna razłožanyja. Vokny biaz ramaŭ, bajtramaŭ i biez padakonnikaŭ. Asadžyvajucca susim nia tak, jak u nas. U voknach adno sucelnaje škło. Zatoje jany pradaŭhavacieńkija i krychu vuzkavatyja, zaŭsiody zaviešany štorami (u pałavinu vakna) i firankami. Na vaknie vazonu nie pastaviš, bo niama padakońnika. Padvojnyja vokny redka ŭžyvajucca.

Damy amerykanskija zaŭsiody z pryhožymi verandami, hankami, balkonami. Najlepš ubirajecca piaredniuju časć domu. Nad voknami i verandami pazaviešany ad sonca ŭsiakich uzoraŭ pałotny.

Niama što dalej havaryć, amerykanskija domiki i strojnyja i vyhodnyja i kruhom miłyja.

Ale skazać praŭdu treba, što jany dobryja tolki na Ameryku. Bo kab naš biełaruski viecier pabušavaŭ nad imi, jak jon bušuje nad biełaruskimi vioskami, dyk jany-b tut doŭha nie pastajali. Abo kab siudy pryšoŭ biełaruski choład, dyk u łožku, pad miakkaj koŭdraj, čałaviek nia ŭhreŭsia-b.

Ale ŭ Amerycy jošć i vializarnyja budynki, što jak harhary stajać až pad nieba. Ich my spatykajem pa vialikich haradoch Ameryki. Staryja ehipcyjanie budavali vysokija pieramidy i dumali, što vyšejšych nichto nikoli na śviecie nia zbuduje. Taksama ŭ šasnaccatym vieku kataliki ŭsiaho śvietu vybudavali ŭ Rymie bazyliku śviatych apostałaŭ Piatra i Paŭła. Vyšła jana słaŭnaja i na ŭvieś śviet tady najlepšaja. Ale prachodzili viaki, ludzi što-raz bolš nabirali budaŭlanaj praktyki. I siahońnia ludzi advažylisia vystavić budynki dva razy vyšejšyja za henu bazyliku ŭ Rymie. I treba-ž, što ŭ hetych spravach technika budaŭlanaja amerykancaŭ uvieś śviet pabiła. U Amerycy chvalacca, što jany ŭ technicy pierahnali Eŭropu na dobrych sto hadoŭ.

Choć nam Biełarusam uva ŭsim-čym ciažka haniacca za Amerykancam, ale ja ŭsiož-dyki svaim ludziam prypaminaju, kab i jany pavažna źviarnuli ŭvahu svaju na biełaruskaje budaŭnictva. Bo apošnimi časami dajšło da taho, što ludzi, narakajučy na niedastatki, pačali lapić sabie chatki chto viedaje jakija. Chata heta važnaja reč dla čałavieka. U chacie najbolšaja časć jaho žyćcia prachodzie. U chacie čałaviek siamju svaju haduje. Dyk-ža i staracca jon pavinien niamała, kab chacina jaho była nie aby jakaja, ale strojnaja, miłaja, vyhodnaja, kab zdaroŭjem i ščaściem nas abdzialała. My hetakija patryjarchalnyja chaty choć redka, ale na Biełarusi spatykajem i tady hladzim na ich zaŭsiody cikavym i łaskavym vokam. Kožny biełarus, jak dumaješ žanicca, dyk pierš-napierš pryhatuj sabie dobruju chatu i dobryja haspadarskija budynki. Ja, kab byŭ dziaŭčynaj, dyk u błahuju chatu nikoli-b zamuž nie pašoŭ-by. Bo i što za žyćcio, kali ciačeć tabie za kaŭnier. Kab-ža, paśla hetaha, dy našy ludcy ŭsimi svaimi siłami ŭzialisia budavać sabie lepšyja chatki. I pryhožyja i raskošnyja i patulnyja. V. B.

---

*Mała čytać svaju rodnuju hazetu: za jaje treba zapłacić.*
*Ci Vy ŭžo zapłacili za „Šlach Moładzi“ za 1932h.?*
*Adnaviecie padpisku na novy hod 1933!*

# Да нас пішуць.

## БУДУЙМА НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ!

**Грыцэвічы,** Нясьвіскага павету. Агульна ўжо прынята казаць, што моладзь — гэта лепшая будучыня кожнага народу. Тымчасам у нас моладзь, мне здаецца, гэтае ацэны не апраўдае, калі так будзе жыць далей, як жыве дагэтуль. У нас моладзь жыве самапасам. Пры гэтым яе дзеяньню трэба прыпісаць шматлікія кражы, п'яныя авантуры, рознага роду неморальнасьці і іншыя няпрыстойнасьці. Праўда, ёсьць у нас троха моладзі разумнейшае. Але дзеля таго, што яна жыве неарганізавана, дык і ня мае ніякага ўплыву на сваіх сяброў.

Вось-жа, мне здаецца, каб пазбавіцца ўсякіх някультурных зьявішчаў у нашай старонцы, якія, пэўне-ж, выкліканы цемнатой і беднатой, лепшая частка моладзі павінна ўзяцца арганізована да культурнае працы, закладаючы напрыклад Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Паступова ўцягваць туды трэба моладзь іншую і надаваць ёй жыцьцёвы кірунак на новых асновах, а іменна — на кооперацыі, якая дае ня толькі магчымасьць палепшыць сваю долю ў сэнсе матэр'яльным, але прывучае людзей і да згоднага жыцьця культурнага.

**Дзядзька.**

## НАША МОЛАДЗЬ.

**Крывіцкая гм.,** Вялейскага пав. Даволі часта прыходзілася мне спатыкацца з акалічнай беларускай вясковай моладзьдзю, асабліва в. Міцькавічы, і з гэтых спатканьняў я вынес вельмі цяжкія ўражаньні. Моладзь гэта ня ўмее жыць, ды нават правясьці палюдзку вольны ад працы сьвяточны час. Яна, замест таго, каб заняцца самаадукацыяй і паглыбляньнем свае веды, ладзіць проста дзікія нейкія танцулькі. Праўда, адпачыць і пагуляць можна, але культурным спосабам, ня так, як гэта тут дзеіцца. Тут на забавы прыходзіць моладзь п'яная, а калі ня п'яная, дык удае што п'яная, бо ўважае, што цьвярозаму на забаве быць не выпадае і што „надта сумна праходзіць моладасьць". Калі-ж хто ня мае за што купіць „манапалькі , то дастае „самагонкі", хоць не адзін ужо за яе і ў вастрозе сядзеў і штраф плаціў. Пры тым, калі хто на вечарыне ў хаце здыме шапку, дык крычаць, што нам ня трэба культуры і пастараюцца яго так вывесьці адтуль, што ён туды ўжо болей і носа не пакажа. Агулам, такія вечарыны канчаюцца або сваркай, або бойкай, асабліва яшчэ ў дзень Усьпеньня Багародзіцы ў Княгініне, падчас фэсту, да якога спэцыяльна падгатаўляюцца.

Пара ўжо адумацца і кінуць гэтыя нягодныя чалавека пастулкі, ня траціць марна здароўя, моладасьці, грошай, пашаны да сябе, ды быць насьмешкай людзям. Вазьмемо ў рукі добрую кніжку і газэту, а з іх даведаемся, як маем жыць, шанаваць сябе, сваё здароўе і людзей, а грошы, якія йдуць на гарэлку, заашчадзіць на іншыя, больш патрэбныя ў жыцьці мэты. А тады пераканаемся, што і без гарэлкі можна жыць весела.

К. Г—віч.

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Не легалізуюць гурткоў Б.І.Г. і К.** Як мы ўжо пісалі, у м. Баранавічах, в. Іванавічах, Баранавіцкага павету і в. Райца, Наваградзкага павету паўсталі гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Да гэтай пары аднак яны ня могуць прыступіць да працы, бо польскія адміністрацыйныя ўлады, (Баранавіцкае і Наваградзкае стараствы), не падаючы ніякіх прычын, »не пшыймуён до вядомосьці" паўстаньне гэтых гурткоў, а гэтым самым гэтыя гурткі БІГіК не легалізуюцца, хоць заложаны згодна з статутам Інстытуту, зацьверджаным у Міністэрстве Унутраных Спраў.

Вось як выглядае ў сапраўднасьці свабода беларускай культурна-прасьветнай працы ў межах сяньняшняй Польшчы

**Працэс Т.Б.Ш.** 1 лютага 1933 году ў Віленскім Акружным Судзе адбудзецца працэс Галоўнае Управы Таварыства Беларускае Школы ў Вільні. Прад судом стануць Ф. Стэцкевіч — старшыня, М. Петкевіч — віцэ-старшыня і Р. Шырма — сэкрэтар і часовы скарбнік ТБШ. Усім ім закідваецца прыналежнасьць да „камуністычнай фракцыі спасярод ТБШ."

**Т.Б.А. і „Родны Край."** У канцы месяца сьнежня с. г. адміністрацыйныя ўлады зацьвердзілі статут новапаўстаўшага, замест збанкрутаваўшага „Цэнтрасаюзу," беларускага полёнафільскага „Таварыства Беларускай Асьветы." Таварыства гэта пачало выдаваць часопіс пад назовам „Родны Край," якая нічым ня розьніцца ад благой памяці „Беларускага Звону;" нават „рэдактарам" „Р.-Краю" астаўся „той-жа" Сіняўскі.

**15-лецьце Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні.** 26-га студзеня 1933 году прыпадаюць 15-я ўгодкі закладзінаў Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні.

**Агульны Сход Т-ва „Беларусаведы" пры Віленскім Унівэрсытэце С. Б.** 11.XII.1932 г. у Вільні ў VII. залі галоўнага

будынку Унівэрсытэту адбыўся агульны гадавы сход Т-ва „Беларусаведы", на якім, паміж іншым, выбраны новы ўрад Т-ва, у склад якога ўвайшлі: Ст. Станкевіч — старшыня, Н. Гаўрылічанка —віцэ-старшыня, Хвораст—сэкрэтар, Т. Мацьвеева— скарбнік і М. Пяцюкевіч — сябры ўраду.

**З беларускае выдавецкае нівы.** Апошнім часам вышлі з друку і паступілі ў прадажу:

„Zorka-Ideja", — сцэнічны абразок з жыцьця беларускае моладзі Я. Рушчанца. Гэта дужа добрая п'еска, выд. „Бел. Інстытуту Гасп. і Культуры," мае 24 бачыны і каштуе 40 грашоў.

„Праграма і Статут Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі."— Праграма гэта і Статут прагледжаныя і зацьверджаныя на Зьезьдзе БХД—13.XII.1931 г. у Вільні, выдана коштам Ц.К.—Б.Х.Д., выпісацьяе можна з сэкрэтарыяту Б.Х.Д. ў Вільні, Людвісарская вул. 1—19.

„Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва Бацькаўшчына ў Латвіі. Кніжыцу гэту напісаў ведамы беларускі дзеяч К. Езавітаў, выдала-ж яе Беларускае Выдавецтва ў Латвіі; апісваецца ў гэтай кніжыцы барацьба Т-ва „Бацькаўшчыны" за беларускую родную школу ў Латвіі.

„Матыльковыя расьліны".— Кніжыцу гэту напісаў інж.-аграном С. Бусел, а выдаў „Цэнтрасаюз". Кніжка мае 62 бачыны і каштуе 50 гр.

„Беларускі Календар на 1933 г. Гэты календар—кніжка, выданьня Я. Малецкага, мае 100 бачын друку, зьмест яго рэлігійна-грамадзкі, каштуе ўсяго 50 гр.

„Беларускі Народны Календар" на 1933 г. (кніжка) — выданьня Ул. Знамяроўскага, мае 64 бачыны, зьмест рожнародны, каштуе 60 гр.

„Наш Бюлетэнь" — гэта ўжо трэці Бюлетэнь Таварыства Беларускае Школы ў 1932 годзе. Зьмяшчае ён інфармацыі з жыцьця Т-ва і выясьняе яго палажэньне.

„Нёман." Па даўжэйшым перарыве вышаў у сьвет № 5 беларускай літэратурна-Навуковай часопісі „Нёман." Зьмест гэтага нумару багаты і цікавы. Цана нумару 70 гр.

Апрача вышэй названых друкаў і палітычных часопісяў, у месяцы сьнежні вышлі з друку пэрыёдычныя месячныя беларускія часопісі рэлігійнага зьместу: „Chryścijanskaja Dumka" Nr. 12 і „Да Злучэньня!" № 12, а так-жа адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская коопэратыўна-гаспадарчая часопісь „Самапомач" № 3.

Усе беларускія кніжкі і часопісі можна выпісаць праз Беларускую Кнігарню „Пагоня" — Вільня (Wilno), Завальная вул. 6—10.

**Беларусы ў Латвіі.** З жыцьця Т-ва Беларускае Моладзі ў Латвіі. Апошнім часам даецца заўважыць

ажыўленьне ў „Таварыстве Беларускай Моладзі ў Латвіі.“ Т-ва гэта сёлета пачало выдаваць сваю часопісь „Апавесьнік,“ сарганізавала помач для бедных вучняў Беларускай Гімназіі ў Дзьвінску, арганізавала таксама спартовыя імпрэзы, струнны аркестр пры Пустынскім Аддзеле, адчыняе вясковыя беларускія бібліятэкі пры аддзелах т-ва, арганізуе лекцыі і інш.

13.XII.1932 году адбыўся агульны сход Т-ва Беларускае Моладзі, на якім паміж іншым выбраны новыя ўлады Таварыства: Цэнтральны Урад і Рэвізыйная Камісія. У склад ураду ўвайшлі: Казімер Мяжэцкі, Пётра Мірановіч — намесьнік старшыні, Франціш Клагіш — сэкрэтар, Міхась Зуеўскі — намесьнік сэкрэтара і Я. Клагіш — скарбнік. У Рэвізыйную-ж Камісію ўвайшлі: Міхась Калінін, Вольга Анурушэнка і Антон Даўгі.

27.XI.1932 г. заснаваны новы Аддзел Т-а Беларускае Моладзі ў Люцыншчыне, у в. Пудыноўка, Мердзінскай воласьці, у склад часовага ўраду якога ўвайшлі: Алесь Іванаў —старшыня, Тамаш Ціхаміраў—намесьнік старшыні, Дзьмітры Ціхаміраў — сэкрэтар, Янка Паціханін — скарбнік, Савялеў Сямёнаў—сябра і І Лукашонак—кандыдат.

Беларуская моладзь у Зах. Беларусі не павінна адставаць ад беларускае моладзі ў Латвіі; ня маючы аднак свае арганізацыі моладзі, павінна закладаць гурткі Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры і разам арганізавана працаваць для дабра Беларускага Народу.

**Б.С.С.Р.** — Як падае Менская „Зьвязда“ з дня 19.XII. 1932 г., у Б.С.С.Р., у Менску, робіцца падгатоўка да Усебеларускае зімовае спартакіяды, якая адбудзецца ў Менску ад 25 лютага да 2 сакавіка 1933 году. Мэтай спартакіяды зьяўляецца выяўленьне лепшых спартсмэнаў Б.С.С.Р. ува ўсіх галінах зімовага спорту. У спартакіядзе прыймаюць удзел усе раёны БССР, якія спэцыяльна да гэтага даўно ўжо падгатаўляюцца.

У сувязі з гэтай спартакіядай абвешчаны конкурс на лепшую фізкультурную інсцэніроўку, сьпевы, скокі і г. д.

У ўсебеларускай спартакіядзе прыйме ўдзел больш 12.000 спартсмэнаў.

— У Менску, як падаюць газэты, нядаўна Камуністычныя ўлады арыштавалі 15 студэнтаў беларусаў, якія, быц-

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і М. Пяцюкевіч.*

**Выдавец: Янка Багдановіч. Рэдактар: Язэп Найдзюк·**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

Адгалоскі перапісі. У часе апошняе агульнае перапісі, якая адбывалася ад 9-12 сьнежня 1931 г., як падаюць весткі з правінцыі, на беларускіх землях зроблены вялікія надужыцьці коштам беларускасьці, на карысьць польскасьці. У гэтай справе вынесены быў пратэст на зьезьдзе БХД (13.XII.31)., а пасол Ф. Ярэміч падаў у Сойме інтэрпэляцыю ў Раду Міністраў.

Новы Гурток БІГіК паўстаў у в. Шальцінах Браслаўскага пав. Новай беларускай культурнай пляцоўцы жадаем пасьпеху ў працы.

Лекцыі. Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце С. Б. сарганізавала 24.I. публічную лекцыю аб матывах беларускай народнай песьні. Чытаў лекцыю гр. Г. Шырма.—31.I. с. г. у тэй самай салі а 5-й гадзіне па абедзе прачытае лекцыю др. М. Чарнэцкі, на тэму „Вайна за Смаленск."

30 і 31 г. м. у гурткох БІГіК у Сьвірыдавічах (Ашмянскі пав.) і Будславе (Вялейскі пав.) прачытае лекцыі інж. Ад. Клімовіч.

Кнігарня „Пагоня" ад 20.I. с. г. перанесена з Людвісарскай вул. № 1, на вул. Завальную № 6—10 (побач з беларускай друкарняй).

~~З [illegible] 20.I. с. г. [illegible] № 1 беларускае рэлігійнае (ўніяцкае) часопісі „Да злучэньня" пад рэдакцыяй а. Ант. Неманцэвіча. Цана нумару 30 гр. Падпіска на год [illegible] зл. і 50 гр. Адрэс рэдакцыі: Альбэртын каля Слоніма а.а. [illegible]~~

25. I. с. г. вышаў у сьвет чарговы № 1 ў 1932 годзе беларускае каталіцкае часопісі „Chryścijanskaja Dumka" пад рэдакцыяй Кс. Ад. Станкевіча. Часопісь гэта, з прычыны матэр'яльнага крызысу, пакульшто будзе выходзіць раз у месяц. Цана нумару 20 гр. Падпіска на год 4 зл. Адрэс рэдакцыі: Вільня зав. сьв. Мікалая 8—3.

Спэктакль-вечарына. Бацькаўскі К-т Віленскае Беларускае Гімназіі 6-га лютага с. г. у залі гімназіі (Вострабрамская 9) ладзіць спэктакль-вечарыну. Пастаўлена будзе п'еса „На парозе справы." Пасьля прадстаўленьня будуць скокі. Уваход на вечарыну ад 1—2 зл. Пачатак а 8-ай гадз. ўвечары. Увесь даход пойдзе на незаможных вучняў Віл. Бел. Гімназіі.

**З Радавай Беларусі.** У Менску адчынена памяшчэньне пад Беларускую Бібліятэку, якое мае 3 паверхі і дзе можна памясьціць 600 тыс. кніжак. Бібліятэка гэта мае цяпер 34 тысячы тамоў беларускіх кніжак.

Pierasyłka apłačana ryčaltam.

# Da nas pišuć.

## ZAKŁADAJMA SWAJE ARHANIZACYI.

**Varejki,** Vaŭkavyskaha pav. U našaj staranie polskija vučyciali, ksiandzy i ŭradoŭcy starajucca zakładać polskija „kulturnyja“ arhanizacyi i ŭciahvać tudy biełaruskuju moładź, kab navučyć jaje „paludzku“, znača—pa polsku havaryć. Arhanizatary i ich arhanizacyi paśpiechu nia majuć, bo moładź ich usio-ž-taki nia słuchaje. Tak, što hetyja arhanizacyi i ich siabry faktyčna isnujuć tolki na papiery. Pažadana adnak było-b, kab moładź nareščie pašła — jak kažuć — u hałavu pa rozum i padumała ab metach hetych arhanizacyjaŭ, abo zapytała ab hetym u dobrych i razumnych ludziej. Tady-b nie zapisvałasia tudy zusim, bo dla jaje tam nia miesca. Treba dumać i to dobra i ŭsiestaronna ab svaim žyćci i ab svaich arhanizacyjach, bo tolki praz ich my zmožam zdabyć dla siabie lepšy byt i navučycca jak treba žyć i jak treba havaryć.

*J—k.*

## KIŃMA SVARKI I BOJKI.

**Voŭpa,** Horadzienskaha pav. Narod naš, asabliva-ž moładź, trymajučysia daŭnych starych pryvyčak, usialakija žyćciovyja nieparazumieńni likviduje niekulturnym sposabam — łajankaj, a navat i bojkami. Tak adnak nie pavinna być. My ŭsie-- syny biełaruskaha narodu, pamiž saboju pavinny žyć zhodna. Usialakija-ž spory treba załahodžvać spakojna, pabracku i pryjacielsku.

Usim nam ciapier žyviecca kiepska, dyk starajmasia heta zło pieramahčy. Treba dbać nia tolki ab svaich asabistych spravach, ale jašče bolš ab spravach ahulnych, narodnych: biaz ščaścia ahulnaha, niama ščaścia asabistaha. I dziela taho, zamiest tracić darma čas i siły na svarkach i bojkach, zajmiemasia lepš pracaj nad uzhadavańniem siabie, čytajučy dobruju svaju biełaruskuju literaturu: jana nam šmat čaho skaža i šmat čaho navuča.

*J. Łaza.*

# Наша пошта.

Гавaруну. У вершах Вашых слабая форма, пяра аднак ня кідайце, просім напісаць штось з жыцьця Вашае моладзі.

Леаніду з-пад Вішнева. За прысланыя вершы дзякуем, часткова выкарыстаем. Просім не забываць.

С. Пастушку з Горадні. Вершы слабыя, пішэце лепш прозай штось з жыцьця вёскі.

М. К—шу. Вершы да друку не падходзяць, пішэце прозай.

Я. Янкоўскаму. Ваш верш, паправіўшы, можна друкаваць, толькі ў „Шл. Моладзі“ не падходзіць,—можа перадаць яго ў Рэд. „Бел. Крыніцы“? Просім пісаць ачсьцей.

Я. Зара. З вершаў, паправіўшы, часткова скарыстаем. Просім пісаць.

цам, належалі да беларускае нацыянальнае арганізацыі „Вызваленьне Беларусі з-пад чырвонай Расеі“ і вялі ў гэтым кірунку працу.

— 27.XI. с. г. у Коўне, на Унівэрсытэце Вітаўта Вялікага, заснавалася беларуская студэнская арганізацыя „Абяднаньне.“

# Usiačyna.

Jašče ab śmierci Adama Mickieviča. Padniataje pytańnie polskim piśmiennikam Boyem-Želenskim ab atraŭleńni najvialikšaha polskaha paeta Ad. Mickieviča, ab čym my ŭžo pisali ŭ Nr. 9 „Šlachu Moładzi“, dajšło da Kanstantynopala, dzie, jak viedama, Mickievič pražyŭ svaje apošnija dni. Spravaj hetaj zacikaviŭsia tam daradčyk polskaha konsulstva Ožechovski i raspytvaŭ u hetaj spravie tamašnich palakaŭ, jakija mahli štoś viedać ab śmierci Mickieviča. I voś-ža adna z najstarejšych tamašnich polak p. H Madiš-Zabłocka (maje 90 hadoŭ), ničoha niaznajučaja ab vyklikanaj ŭ Polščy dyskusii, u hutarcy z Ožechovskim adrazu zajaviła, što A. Mickievič byŭ atraŭleny. Chto jaho atraviŭ, napeŭna niaviedama, bo adny kazali, što rasiejcy, a druhija — što palaki. Ab atraŭleńni Mickieviča ŭžo havaryli na jaho pocharanach. Syn-ža byŭšaha kuchara Mickieviča — Lepkoŭski zajaviŭ, što Mickieviča, jak raskazvaŭ jaho baćka, prabavali niekalki razoŭ atravić pry pomačy kucharaŭ. Papiarednik jaho baćki i jahony baćka byli vielmi chutka zvolnieny, a na ich miesca byŭ uziaty za kuchara jakiś hrek, katory razam zachvareŭ i razam badaj pamior z Mickievičam.

Pad vadoj na 750 metraŭ. Viedamy amerykanski vučony, prafesar William Beebe, razam z svaim asystentam Bertonam, niedaloka ostravoŭ Bermunda, spuściŭsia ŭ specyjalna zbudavanaj stalovaj kuli pad vadu na 750 metraŭ. Spaściarohi, jakija rabiŭ praf. Willam Beebe ŭ časie svajho pabytu pad vadoj, byli padavanyja praz amerykanskaje radyjo. Na hłybini 100 metraŭ, raskazvaŭ praf. William Beebe, panuje niepraniknutaja ciemra, hłybiej adnak robicca štoraz śviatlej, tak što možna było bačyć mnostva roznych marskich stvareńniaŭ. Śviatło, jakoje aśviačaje u roznych kolerach marskuju hłybiniu, vydzialajuć z siabie fasfaryzujučyja ryby.

Na samalocie ŭźlacieŭ na vyšyniu 13.000 metraŭ. Anhlijski latun Kiryl Juwins na samalocie, z matoram siłaj 550 koniaj, u praciahu dźviuch hadzin, uźlacieŭ na vyšyniu 13.000 metraŭ (13 kilometraŭ).

Novaje škło. U Niamieččynie pačali vyrablać škło, jakoje nia bjecca. Hetaje škło elastyčnaje jak huma.

163.166.000 žycharaŭ u S.S.R.R. Pavodle apošniaje savieckaje statystyki ciapier u S.S.R.R. 163.166.000 žycharaŭ.

Kolki žycharaŭ u Miensku? Pavodle apošnich padličeńniaŭ u Miesku jość ciapier 131.528 žycharoŭ.

Viečny siarnik, jaki zrabiŭ z niaviedamaje dahetul nikomu masy dr. Ringer, vyhladaje bolš-mienš taksama, jak i ciapierašnija siarniki, zapalvajecca, kali patreš jaho ab specyjalnuju masu, a haśnie — kali datknuć jaho da jakoj-niebudź inšaj materyi. Siarnik hety možna zapalvać 300 razoŭ, a 20 štuk ich, z niklovym pudełačkam, maje kaštavać kala paŭtara złota.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# Naša pošta.

M. Sumnamu. Karespandencyi Vašy nia možam źmiaścić, bo Vy nie padajecie ani nazovy arhanizacyi, ani miejsca, h. zn. vioski, dzie heta arhanizacyja jość i pracuje. Hadaviki „Šlachu Moładzi" možacie vypisać z našaje redakcyi, kaštujuć jany pa 5 zł.

A. Hałuzin. Knižki biełaruskija možacie vypisać z Kniharni „Pahonia" Wilnia, Zavalnaja vul. Nr. 6—10.

J. Vilkoŭščyku. Za dobryja słovy, padpisku i materyjały ščyra dziakujem. Vieršy, jak bačycie, drukujem. Knižki i kalendar vysyłajem. Prosim nie zabyvać.

K. Matuseviču. Za prysłanaje dziakujem, pa mahčymaści skarystajem. Prosim pisać čaściej.

Uł. Kazaroviču. Vieršy atrymali, pa mahčymaści budziem drukavać. Prosim napisać štoś z žyćcia moładzi Vašaje staronki.